www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 71 (4323)

7 верасня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

# Са святам, Мінск!



*8 і 9 верасня беларуская сталіца адзначыць Дзень горада.*

**ФАКТ**

## Чакаем крэдыты…

Беларусь атрымае шосты транш Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР) на працягу месяца, заявіў намеснік кіраўніка Еўразійскага банка развіцця (ЕАБР) **Андрэй Крайні**. Сума крэдыту – 200 млн долараў, срокі выдаюцца пад 4%.

Таксама зараз у ЕАБР на разглядзе знаходзіцца праект на 100 мільёнаў долараў па фінансаванні вытворчасці камплектуючых Мінскага трактарнага завода. Рашэнне па ім яшчэ не прынята.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Цёпла і без дажджоў

У выхадныя надвор'е парадуе.

У суботу ўначы будзе +8…+15ºС, удзень +20…+26ºС.

У нядзелю 9 верасня +21…+27ºС.

Паводле інфармацыі сіноптыкаў, на пачатку наступнага тыдня пачнуцца дажджы, тэмпературны фон панізіцца і вернецца да кліматычнай нормы.



**ТОЧКА ЗРЕНИЯ**

Александр ФЕДУТА

# Два Володи в вышиванках

Как идет вышиванка дорогому Владимиру Владимировичу! Он даже послов к себе приглашает, чтобы они на него, красивого и вполне либерального, в вышиванку наряженного, полюбовались! Так и называется мероприятие – день белорусской вышиванки.

А вот Владимир Прокофьевич вышиванке не идет. То есть так считает кто-то в белорусской власти, кто заставил снять с городских ситилайтов (так называются пластиковые рекламные щиты) проплаченную рекламу интернет-крамы белорусской одежды symbal.by, на которой был изображен поэт Владимир Некляев в вышиванке и с приличествующим случаю слоганом «Так добра, калі ты ўсміхаешся!». Улыбка у поэта вполне фотогеничная, сам он выглядит далеко не развалиной, да и президентом, согласно законодательству, выдвигаться уже не может: юбилейную черту он перешагнул. В общем, причины снять его с рекламного щита никакой нет. По крайней мере очевидной для стороннего наблюдателя. Иной раз у нас на щитах такие рожи висят!.. А вот нет: им можно, Некляеву нельзя.

Все понятно: в голове у белорусских чиновников все еще 2010 год, некляевская президентская кампания, и им кажется, что появление Владимира Прокофьевича на щите способно поколебать хрупкое национальное равновесие. То есть появление кандидата в президенты на тюремном «щите» (напомню: так называются сбитые доски, которые подкладывают на тюремную шконку-койку, чтобы она не провисала под телом заключенного) их не смущало, а на рекламном щите – смущает. А чем?

Ни одного политического лозунга рядом с белозубой улыбкой белорусского поэта нет. Что он одновременно политикой увлекается – тоже здесь не отмечено. Вполне социальная реклама. Что рекламируется? Доброжелательность и хорошее настроение. Ну, еще интернет-магазин белорусской одежды, в которую не стыдно даже Владимира Владимировича нарядить (я про все того же несчастного министра нашего, обиженного злопамятством экс-президента Франции, явно отравившегося белорусским гостеприимством во время переговоров по Донбассу). В чем же дело? Разве не вправе рекламодатель выбирать, чей именно облик должен украшать его рекламу? Вправе. И если там даже висит лицо из рубрики «Их разыскивает милиция», но снято это лицо так, что не оскорбляет ничьего вкуса, религиозного и национального чувства, то пусть себе висит. Политику тоже там быть изображенным не запрещается, если только он не баллотируется куда-нибудь. А Владимир Прокофьевич, насколько я осведомлен, сейчас никуда баллотироваться не может, ибо выборов – в данный момент точно – в нашей стране нет.

Хотелось бы услышать внятные аргументы, высказанные вслух, или получить их на бумаге. Например, когда власть не хотела называть улицу именем Василя Быкова, она нашла отговорку: дескать, десяти лет не прошло со дня кончины величайшего белорусского писателя. Потом сама же признала, что это лишь отговорка, но если не приличие, то формальное полуприличие с ее точки зрения было соблюдено. А сейчас?

В кулуарах вам скажут:

– Ну вы же понимаете… Лукашенко…

Понимаю. В нашей стране во всем, в чем не виноват Федута, виноват Лукашенко. Но я сильно сомневаюсь, что это президент распорядился снять эту рекламу вышиванки. Скорее всего, ехидно улыбнулся бы: вот, мол, до чего Володю довели, в рекламе начал сниматься… Ну ничего, пусть повисит. А рядом, кстати, другого Володю повесьте – ему вышиванка тоже к лицу. Как-то так было бы, мне кажется. Да и не царское это дело – рекламные щиты вдоль дороги развешивать.

Дело не в Лукашенко. Дело в государственном механизме. Каждый винтик в нем держится за свой шпунтик с такой силой, что вырвать его, не расшатав весь механизм до основания, трудно. Запуганные не столько Лукашенко (его они как раз давно не боятся), сколько собственным представлением о том, с чего начинается революция, с какой-такой картинки в твоем букваре, они слепо совершают глупость за глупостью, даже не отдавая себе отчета в происходящем. Мол, будет Лукашенко проезжать мимо, заметит портрет Некляева (ну, не будет проезжать мимо – мой заместитель снимочек сделает и телегу в КГБ накатает), прикажет снять не его, а меня. А меня-то за что? Я ведь лояльный! Хороший товарищ и верный слуга, как писал поэт! Не трогайте!

Хотя инициированная другим Володей в вышиванке рекламная белорусская «оттепель» им столько крови попортила, что их тоже понять можно. Вышиванка – да, это уже можно. Реклама белорусского языка – хрен с ним, с *агрэстам* и с *ажынамі-журавінамі*. А Некляева читать и песни на его стихи петь – это как, еще приравнивается к государственной измене второй степени или уже нет? Непонятно…

В общем, они тоже не против «оттепели», наши чиновники. Но явно предпочли бы, чтобы двух Володей в вышиванках на всякий пожарный случай повесили рядом. И не в виде рекламных щитов. Просто – повесили. Это было бы вполне однозначным месседжем всему государственному аппарату. И каждый винтик вздохнул бы с искренним спокойствием: ребята, «оттепель» закончилась, можно жить.

**ФІНАНСЫ**

## Долар расце і не збіраецца спыняцца

Старшы аналітык кампаніі "Альпары" Вадзім Іосуб распавёў "Народнай Волі", чаму амерыканская валюта даражэе восьмы дзень запар.

Учора на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы "зялёны" падаражэў у чарговы раз і дасягнуў узроўню **2,12**03 рубля за долар. Такім чынам, амерыканская валюта аказалася на максімуме з 4 сакавіка 2016 года.

Еўра таксама падскочыў уверх на 0,0183 рублі да **2,46**64 рубля за еўра.

– **Што будзе далей адбывацца з доларам?**

– Амерыканская валюта працягне расці нават у тым выпадку, калі Нацбанк спыніць аперацыі па штучным аслабленні рубля. Санкцыі ў дачыненні да Расіі будуць толькі павялічвацца, яны закрануць у тым ліку і банкаўскую сістэму. А значыць, у бліжэйшыя паўгода расійскі рубель будзе падаць у дачыненні да долара. Калі ж долар працягне расці да расійскага рубля, то гэта аўтаматычна будзе азначаць і рост да беларускага рубля. Праўда, у сітуацыі, калі мы дакладна не ведаем, наколькі жорсткія будуць санкцыі, немагчыма дакладна спрагназаваць і тое, наколькі падаражэе амерыканская валюта.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ВПЕРВЫЕ В БЕЛАРУСИ**

## В Минске приземлятся астронавты со всего мира

*9 сентября стартует XXXI Международный конгресс Ассоциации участников космических полетов. Ожидается, что в Минске высадится около 100 космонавтов из 17 стран мира – приглашены все те, кто когда-либо бывал на орбите. Причем космонавты приезжают вместе с семьями.*

Почему космический форум состоится именно в Минске?

*«Критерии выбора страны для проведения конгресса довольно однозначные: она должна быть заметна в международном сообществе по своей космической деятельности,* – поясняет заместитель председателя президиума Национальной академии наук Беларуси **Сергей Килин**. – *Беларусь можно назвать значимой на международной арене в космической сфере в трех компонентах. Во-первых, не так много стран, которые участвовали в реализации космической программы с самого начала. Во-вторых, уроженцы Беларуси Петр Климук, Владимир Коваленок, Олег Новицкий – космонавты, известные во всем мире люди, к которым прислушиваются. И, в-третьих, у нас есть космические аппараты, космическая отрасль, предприятия, ученые, которые способны создавать новую космическую технику".*

Космонавтов, которые приедут в Минск, ждет насыщенная культурная программа с экскурсиями в Несвижский и Мирский замки, на фабрику "Коммунарка", БелАЗ, в Большой театр.

Некоторые космонавты после завершения конгресса хотели бы еще немного попутешествовать по Беларуси. Например, космонавт из США **Джон Дэвид Барто** обнаружил белорусские корни и хотел бы с супругой побывать в Гродненской области.

**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ**

*10 сентября в Минске откроют монумент белорусским космонавтам. Автор обелиска – народный художник Беларуси, скульптор* ***Иван Миско.***



Барельеф с профилями **Петра Климука, Владимира Коваленка и Олега Новицкого** в скафандрах и их автографами появится на улице Космонавтов.

А в Ботаническом саду появится Аллея космонавтов – космонавты сами посадят деревья.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

**На фото: космонавт Олег Новицкий в мастерской скульптора Ивана Миско.**

**РАССЛЕДАВАННЕ**

# Хто аддаў загад зняць банеры?

*"Народная Воля" паспрабавала высветліць, з якіх высокіх кабінетаў аддалі загад зняць рэкламныя банеры крамы simbal.by з выявамі знакамітых асоб – Уладзіміра Някляева, Юрыя Жыгамонта, Меліціны Станюта і Лявона Вольскага. Рэклама на вуліцы Машэрава правісела ўсяго некалькі гадзін.*

### Каго спужалася агенцтва Марыі Кавалеўскай?

Кіраўнік крамы symbal.by **Павел Белавус** распавёў «Народнай Волі», што амаль год супрацоўнічаў з рэкламным агенцтвам **Марыі Кавалеўскай**. Паводле ягоных слоў, менавіта ў агенцтва нехта патэлефанаваў і запатрабаваў тэрмінова прыбраць з вуліцы рэкламу крамы.

*«Але хто канкрэтна сказаў і адкуль быў званок – яны нам катэгарычна адмаўляюцца адказваць,* – гаворыць Павел. – *Кіраўніца агенцтва цяпер ні з кім на гэтую тэму не хоча размаўляць, нават са мной. Яна, відаць, перапанікавала…*

*Нас таксама папярэдзілі, што ніводны з чатырох банераў вешаць не будуць, пакуль не атрымаем дазвол у Камітэце архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама. Мы рыхтуем неабходныя дакументы.*

*Рэкламнае агенцтва баіцца браць на сябе адказнасць, хоць па заканадаўстве яны не павінны рэкламныя банеры ні з кім узгадняць. Але цяпер кажуць, што трэба, каб гарадская структура, якая адказвае за вонкавае аздабленне горада, нам дала дазвол на размяшчэнне банераў.*

*Мы абавязкова паспрабуем атрымаць ад іх адказ. Яны прымаюць дакументы да разгляду і раз у тыдзень там збіраецца спецыяльная рада, якая дае сваё заключэнне.*

*Чаму мы звярнуліся менавіта ў гэтае рэкламнае агенцтва? Калі пераехалі на Машэрава, 18, гэтае агенцтва прапанавала нам размясціць рэкламу, мы працавалі разам прыблізна год, яны ўзгаднялі нашу рэкламу і ніякіх праблем не было.*

*Мы не размяшчаем фотаздымкі тэрарыстаў, не пішам нейкія правакацыйныя лозунгі. На банерах – добры надпіс, пазітыўныя мэты, ніякай палітыкі і правакацый. Мы хацелі проста бачыць героямі сваёй рэкламы тых людзей, якіх мы паважаем, якія з'яўляюцца для нас аўтарытэтамі. І таму для нас прынцыпова атрымаць дакладны і зразумелы адказ, чаму нам адмовілі».*




**Вось так выглядала рэклама, якая напалохала нейкіх чыноўнікаў.**

Рэкламнае агенцтва Марыі Кавалеўскай існуе з 2008 года.

*«Мы ўзялі старт у 2008 годзе і з таго часу паспяхова працуем у рэкламным бізнесе,* – гаворыцца ў звароце кіраўніцы агенцтва да наведвальнікаў сайта. – *Мы ўпэўнена стаім на нагах, у меру амбіцыйныя, імкнёмся быць лепшымі, не стаім на месцы і пастаянна ўдасканальваемся. Бо наша мэта – дапамагаць нашым кліентам развіваць бізнес і быць паспяховымі… Нам можна давяраць, на нас можна пакласціся, мы разам з нашымі кліентамі ідзём да пастаўленай мэты, мы сваіх не кідаем».*

У агенцтве з «Народнай Воляй» не сталі абмяркоўваць тэму зняятых банераў.

«*Нічога каментаваць не будзем, нават і не прасіце*», – коратка адказалі там.

### Мінгарвыканкам робіць выгляд, што ні пры чым

У Камітэце архітэктуры і горадабудаўнітва Мінгарвыканкама не захацелі пракаментаваць сітуацыю, якая склалася вакол рэкламных банераў крамы symbal.by.

«*Камітэт архітэктуры ўзгадняе эскізы, у нас раз у тыдзень праходзіць пасяджэнне адпаведнай рабочай групы*, – патлумачылі «Народнай Волі». – *У першую чаргу мы глядзім толькі знешні выгляд. Усё астатняе – гэта пытанні да дзяржаўнага прадпрыемства «Мінск-Рэклама».*

*А што тычыцца нейкіх званкоў «з высокіх кабінетаў», дык маглі ж не толькі з Мінгарвыканкама патэлефанаваць. А ўвогуле, дасылайце лепш афіцыйны пісьмовы запыт на імя старшыні нашага камітэта* ***Паўла Лучыновіча***».

### «Мінск-Рэклама»: «Гэта не мы!»

«Народная Воля» звярнулася за каментарыем і да адзінага дзяржаўнага апарата вонкавай рэкламы ў Рэспубліцы Беларусь – прадпрыемства «Мінск-Рэклама».

*«Мы да гэтай рэкламы не маем ніякага дачынення,* – адказала першы намеснік дырэктара прадпрыемства **Таццяна Каліціна**. – *Крама symbal.by з намі не працавала і заказ у нас не размяшчала. Таму, на жаль, ведаю роўна столькі, колькі і вы. Хоць у некаторых публікацыях і былі спасылкі на нас, але гэта не мы.*

*Адказнасць за законнасць размяшчэння рэкламы нясе рэкламараспаўсюджвальнік. Паводле дэкрэта прэзідэнта, змест рэкламы сёння не ўзгадняецца нікім. Ёсць толькі адна адміністрацыйная працэдура: узгадненне ўстаноўкі сродку вонкавай рэкламы, вызначэнне, што гэта будзе – вывеска, борд ці нешта іншае. І «Мінск-Рэклама» ўпаўнаважана менавіта на правядзенне такой працэдуры. А тое, што тычыцца ўзгаднення наконт сюжэта вонкавай рэкламы, – тут адказнасць цалкам на рэкламараспаўсюджвальніку. Нідзе нічога ўзгадняць не трэба. Калі будзе выяўлена, што рэкламны сюжэт размешчаны з парушэннем заканадаўства, тады да распаўсюджвальніка прымаюцца нейкія меры адміністрацыйнага спагнання».*

### «Будзем разбірацца!»

Кіраўнік крамы symbal.by **Павел Белавус** гаворыць, што прыкладзе ўсе намаганні, каб атрымаць пісьмовы адказ ад чыноўнікаў пакуль што Камітэта па архітэктуры і горадабудаўніцтве.

*«Хочацца разабрацца ў сітуацыі і зразумець, чым жа іх так спужаў Някляеў з усмешкай і добрымі словамі,* – кажа Павел. – *Уся гэтая гісторыя – проста яскравы прыклад цэнзуры і абсурднасці, у якой мы жывём…»*

**Марына КОКТЫШ.**

**ЧУЛІ?**

## Зноў за кратамі…



Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец быў затрыманы 5 верасня ў Курапатах. Да суда ён знаходзіўся ў ізалятары на вуліцы Скарыны, куды яго даставілі пасля пяці гадзін, праведзеных у Бараўлянскім РАУС.

Учора над ім прайшоў суд. Севярынца асудзілі на 10 сутак.

АФІЦЫЙНА

# На колькі рублёў вырастуць заробкі…



Пастанову ўрада аб павышэнні з 1 верасня заработнай платы асобным катэгорыям работнікаў адукацыі і аховы здароўя (настаўнікам, урачам, памочнікам выхавальніка, фармацэўтам і г.д.), а з 1 кастрычніка – тарыфнай стаўкі першага разраду з 34 да 35,5 рубля работнікам бюджэтнай сферы ў цэлым выклікала шэраг пытанняў.

Напрыклад, паведамлялася, што з 1 верасня памочнікам выхавальніка павысяць тарыфную стаўку на 20%, а правізарам, фармацэўтам, фізікам, хімікам, біёлагам – аклад у памеры ад 40% да 100%. Таксама ва ўрадзе падкрэслівалі, што павышэнне заработнай платы будзе адбывацца за кошт ўстанаўлення павышэння тарыфных ставак, акладаў і даплат у дыферэнцыраваных памерах з улікам аб'ёму, складанасці і выніковасці работы.

А колькі гэта складзе ў рублях?

Прэс-служба кіраўніка дзяржавы апублікавала лічбы, якія сведчаць, як зменяцца зарплаты некаторых работнікаў у кастрычніку 2018 года ў параўнанні са жніўнем 2018 года.

Такім чынам, з 1 кастрычніка зарплаты вырастуць:

у **дацэнта ўстановы адукацыі** – на 11,3%, або на **72 рублі 10 капеек;**

**настаўніка,** які мае 1-ю кваліфікацыйную катэгорыю, – на 12,7%, або на **64 рублі 70 капеек;**

**памочніка выхавальніка** – на 15,7%, або на **55 рублёў 10 капеек;**

**урача хірургічнага профілю**, які мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю, – на 19,3%, або **128 рублёў 60 капеек;**

**аперацыйнай медсястры**, якая мае 1-ю кваліфікацыйную катэгорыю, – на 14,1%, або на **63 рублі 70 капеек;**

**правізара**, які мае 1-ю кваліфікацыйную катэгорыю, – на 46,4%, або **178 рублёў 40 капеек;**

**фармацэўта**, які мае 1-ю кваліфікацыйную катэгорыю, – на 26,7%, або **98 рублёў 80 капеек.**

Прэс-служба кіраўніка дзяржавы таксама паведаміла, што пастанова ўрада аб павышэнні зарплаты і тарыфнай стаўкі першага разраду дазволіць павялічыць сярэднюю зарплату педагагічных работнікаў на 13,5% (гэта складзе 88% у адносінах да зарплаты па краіне ў цэлым), урачоў – на 19,1% (144%). *«У выніку прыняцця пастановы сярэдняя заработная плата работнікаў бюджэтных арганізацый за 2018 год складзе 742 рублі, у тым ліку за снежань – 858, у сярэднім за IV квартал 2018 года – 801 рубель»,* – паведаміла прэс-служба прэзідэнта.

МІЖ ІНШЫМ

## Ад 350 да 1350 рублёў

*Колькі цяпер зарабляюць бюджэтнікі, якім з 1 кастрычніка паабяцалі прыбаўку да зарплаты?*

Апошнія апублікаваныя Белстатам дадзеныя па сярэдніх заробках у краіне тычацца ліпеня. За жнівень гэтай статыстыкі пакуль няма.

У ліпені ў сярэднім у Беларусі **ўрачы** зараблялі 1090–1208 рублёў,

**медыцынскія сёстры** – 750,

**настаўнікі** – 766,

**выхавальнікі дзіцячых садкоў** – 550–600,

**памочнікі выхавальніка** – 350–400,

**прафесарска-выкладчыцкі склад** – 1350,

**работнікі фармацэўтычнай галіны** – 1149.

Варта адзначыць, што асобна дадзеныя па сярэдніх заробках выхавальнікаў дзіцячых садкоў Белстат не агучвае. Лічбы, якія мы прывялі, атрыманы ад саміх работнікаў садкоў.

Дарэчы, у бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў ліпені склала 741 рубель, а ў цэлым па краіне – 974 рублі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

## Каму ў медыцыне паднялі зарплату?

Міністр аховы здароўя **Валерый Малашка** патлумачыў: *"У аказанні высокатэхналагічнай медыцынскай дапамогі разам з медыкамі бяруць удзел работнікі іншых спецыяльнасцяў: біёлагі, фізікі, хімікі і іншыя. Гэта ўнікальныя спецыялісты. Адзінкавыя спецыялісты, якія забяспечваюць выкананне высокатэхналагічных медыцынскіх умяшанняў у галіне клетачнай медыцыны і прамянёвай тэрапіі, шматэтапных малекулярна-біялагічных даследаванняў. Без іх галіна не можа актыўна развівацца".*

Таму тарыфныя аклады такіх спецыялістаў павысяцца на 100%. Пастанова ўрада распаўсюджваецца на работнікаў бюджэтных арганізацый (бальніц, паліклінік, дыспансераў, РНПЦ, устаноў адукацыі і іншых.).

Прэс-служба медыцынскага ведамства ўдакладніла: тарыфныя аклады будуць павышаны:

фармацэўтычным работнікам, якія маюць вышэйшую фармацэўтычную адукацыю, – на 75%;

фармацэўтычным работнікам, якія маюць сярэднюю спецыяльную фармацэўтычную адукацыю, – на 40%;

работнікам арганізацый аховы здароўя, медыцынскіх навуковых арганізацый, якія ажыццяўляюць медыцынскую дзейнасць (за выключэннем устаноў, якія ажыццяўляюць дзяржаўны санітарны нагляд) і займаюць пасады хіміка, вядучага хіміка, біёлага, вядучага біёлага, за выкананне комплексных шматэтапных малекулярна-біялагічных даследаванняў, імунаферментных даследаванняў, даследаванняў у галіне клетачнай медыцыны – на 100%;

спецыялістам, якія займаюць пасады медыцынскага фізіка, вядучага медыцынскага фізіка, інжынера, вядучага інжынера, за выкананне работ па сінтэзе, фармакапейным аналізе і дазіметрычным кантролі радыефармацэўтычных лекавых сродкаў, абслугоўванні і эксплуатацыі медыцынскага дыягнастычнага абсталявання для прамянёвай дыягностыкі, апаратаў і камп'ютарных сістэм для планавання, рэалізацыі і забеспячэння гарантыі якасці прамянёвай тэрапіі – на 100%.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

## Марш салідарнасці з журналістамі не дазволілі

*На думку чыноўнікаў Мінгарвыканкама, пададзеная заяўка нібыта не адпавядае пераліку дазволеных месцаў для правядзення мерапрыемстваў.*

"Падстава для адмовы вартая смеху, бо ў заяўцы пазначаны месцы, дзе выканкам раней даваў дазвол на правядзенне мітынгаў і дзе ніколі не было эксцэсаў з іх правядзеннем, – *каментуе рашэнне Мінгарвыканкама адзін з сустаршыняў аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя"* ***Віталь Рымашэўскі****.* – Нагадаю, у заяўцы пазначана месца збору – Акадэмія навук, дзе традыцыйна пачынаецца і Чарнобыльскі Шлях, і іншыя дазволеныя акцыі пратэсту. Таксама месца мітынгу – Плошча Парыжскай камуны, дзе ўвесну дзясяткі тысяч людзей святкавалі Дзень Волі.

Адмова, на мой погляд, сведчыць найперш пра дзве рэчы. Па-першае, у Беларусі адсутнічае рэальная магчымасць для правядзення мірных сходаў. І на парушэнне правоў чалавека, і на рэакцыю міжнароднай супольнасці беларускім уладам глыбока напляваць. Улічваючы, што Мінгарвыканкам забараняе правядзенне мітынгу ў тых месцах, дзе звычайна давалі дазвол, трэба чакаць правакацый з забаронай нават традыцыйных акцый пратэсту на Дзень Волі і падчас Чарнобыльскага Шляху…

Па-другое, я лічу, што правядзенне любых масавых палітычных мерапрыемстваў у Беларусі магчыма толькі пры грамадскім ціску на ўлады. Усе дазволы, якія даваў Мінгарвыканкам за апошнія 20 гадоў, былі прадыктаваны не столькі добрай воляй і жаданнем даць магчымасць грамадзянам рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права, колькі страхам перад несанкцыянаванымі акцыямі пратэсту.

Наступнае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта пройдзе на пачатку наступнага тыдня. Разам з калегамі будзем вырашаць, якія рабіць далейшыя крокі ў гэтай сітуацыі. У нас няма мэты падстаўляць людзей пад рэпрэсіі. Заклікаю чыноўнікаў перагледзець рашэнне і даць дазвол на Марш салідарнасці з журналістамі і прафсаюзам РЭП".

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ТРАГЕДЫЯ

## Служыць заставалася паўгода

У Слонімскім гарнізоне павесіўся салдат. Вядома, што гэта адбылося 5 верасня. Салдату А.В.Арлову было 20 гадоў, да заканчэння службы яму заставалася паўгода.

Мінабароны сцвярджае, што *«прычына суіцыду абумоўлена асабістымі абставінамі і не звязана з праходжаннем вайсковай службы».*

Па дадзеным факце Следчым камітэтам праводзіцца праверка, у вайсковай часці працуе камісія Міністэрства абароны.

**Алесь МІХАЛЁЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,

профессор, доктор экономических наук

## О секретах бюджета и загадочной «заначке»

Обычно проблемные экономики типа белорусской имеют дефицитные бюджеты, то есть расходы бюджета не покрываются доходами. Но не всегда. Достаточно и вполне развитых стран с дефицитными бюджетами. Например, по данным за 2017 год дефицит госбюджета США составил 655 млрд долларов, Японии – 224 млрд, Франции – 78 млрд долларов. Наша соседка Россия тоже в минусе (-33,6 млрд долларов). Но таким странам, как правило, несложно найти заемные источники для финансирования этого разрыва, чтобы исполнить свои бюджеты. Сложно это сделать, скажем, экономике Греции, которая является чемпионом в жизни не по средствам, и ей не хотят занимать денег: мало кто верит, что она сумеет рассчитаться с долгами.

Но вот белорусская экономика в последние годы имеет профицитный бюджет. По данным Министерства финансов Беларуси, доходы бюджета сектора государственного управления (бюджет правительства, органов местного управления и ФСЗН) за январь–июль 2018 года сложились в сумме 29,5 млрд рублей, или 63,9% годового плана. Расходы бюджета сектора государственного управления за 7 месяцев составили 24,9 млрд рублей, или 54,3% плана. Если исполнять бюджет по плану, то расходы и доходы за 7 месяцев должны быть примерно 58%. Как видим, доходы идут с перевыполнением плана, а на расходах Минфин экономит, что, в общем, вполне неплохо.

Если взять отдельно республиканский бюджет, то здесь также все хорошо: доходы составили 13,8 млрд рублей, или 66% годового плана, расходы – 10,6 млрд, или 51,8% плана. Больше всего доходов традиционно дал НДС (6,4 млрд рублей), от налога на прибыль получено 2 млрд, поступления акцизов составили 1,5 млрд рублей, доходы от внешнеэкономической деятельности достигли 3,1 млрд рублей, или 81,7% плана. Благо мировые цены на нефть, нефтепродукты и калийные удобрения белорусским экспортерам благоволили.

На радость и профицит. По бюджету сектора государственного управления он сложился в сумме 4,6 млрд рублей, по республиканскому бюджету – 3,2 млрд рублей. Для белорусской экономики немалые деньги. Почему же многие развитые экономики и та же Россия мучаются с бюджетными дефицитами, а белорусские бюджеты все в шоколаде? Сразу и не ответишь. То ли Минфин берет на себя не слишком напряженные планы по доходам, то ли наши фискальные органы ударно работают по выбиванию налогов и всяких штрафов (чего у них точно не отнимешь), но и экономия государственных трат, видимо, также присутствует. Особенно видно даже невооруженным глазом, как наша таможня давала добро: пошлины от подскочившего экспорта потекли в бюджет рекой. Положительное сальдо торговли товарами и услугами за полгода составило 329,4 млн долларов. По отношению к ВВП – это 1,2% при плане 0,2%.

На что же традиционно расходовался бюджетный профицит? В первую очередь на погашение государственного долга. На эти цели направляются целиком все экспортные пошлины от нефти и нефтепродуктов. Потому-то так и важны для нас взаимоотношения с Россией по поставкам оттуда углеводородов. А дальше профицитные деньги участвуют во всех других бюджетных расходах. В свое время глава государства нарекал Минфину на чрезмерный рост профицита, чтобы министерство не перестаралось в экономии госрасходов. Действительно, надо ли зажимать деньги, когда основная масса бюджетников получает «слезные» зарплаты? Вот и решили расстараться – повысить с 1 сентября зарплаты учителям и врачам. Что интересно, СМИ сообщили, что, мол, на эти цели будут задействованы и средства из Президентского фонда. Видать, много у нас, как посчитали, медиков и наставников. Нелишне будет напомнить, что высшим чиновникам и силовикам за прошлый год зарплаты увеличили процентов на 40.

В конце года власти намерены потратить на разные нужды почти весь профицит бюджетов. По уточненному плану, профициты бюджета органов госуправления и республиканского бюджета должны снизиться соответственно до 344,5 и 494,1 млн рублей. Иначе говоря, за оставшиеся месяцы будет израсходовано несколько миллиардов рублей. Похожим образом Минфин поступал и в прошлом году. Так, декабрьские расходы составили более 14% всех запланированных на весь год. Как говорится, налетай, подешевело.

Помимо зарплатных статей у белорусского бюджета достаточно головных болей. Минфиновцы попытаются половину ежегодного госдолга отдать за счет собственных источников, тогда как раньше осиливали только 25%. Никуда не делись государственные предприятия-монстры, которые без бюджетной поддержки существовать не могут, и в один миг обновленное правительство их не вытянет на самостоятельную рентабельную работу, например, то же сельское хозяйство и т.д. Помимо этого в Беларуси целые отрасли из-за перекредитованности лишены оборотных средств. Но бюджетная матрица на текущий год осталась без принципиальных в этом отношении изменений. Квазифискальное финансирование, когда бюджет погашает банкам вместо госпредприятий-заемщиков их кредитные проценты да и сам основной долг, остается неизжитым.

По мнению специалистов, госбюджету Беларуси, как и всей экономике, больше всего угрожают внешние шоки. Это налоговый маневр России в ценообразовании на нефть и нефтепродукты, это отрицательная динамика мировых цен на основные экспортные товары страны, это влияние новых американских санкций на состояние рынка России. А как-либо повлиять на такого рода неблагоприятные внешние факторы ни правительство, ни Министерство финансов практически не в силах.

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Вайна з крыжамі

Калі едзеш па мінскай кальцавой міма Курапатаў і бачыш дзясяткі ўсталяваных уздоўж дарогі крыжоў, то міжволі адчуваеш, як нейкая невядомая сіла нібы выхоплівае цябе з хуткаснага патоку. І пра што б ты ні думаў, седзячы за стырном, у тыя імклівыя паўхвіліны ты ўсведамляеш патрэбу схамянуцца і прыцішыць хуткасць аўто. Папросту кажучы, крыж спрацоўвае як сістэма каардынат і імгненна вяртае цябе ў вызначанае двума тысячагоддзямі хрысціянства месца. Дзе чалавек разумее, *што* ёсць злачынства, пакаранне і пакаянне. І шкада, вядома, што пры кальцавой дарозе каля Курапатаў няма зацішнай стаянкі з інфармацыйным стэндам. Бо на хуткасці 100 км/г пра вечнае задумвацца даволі небяспечна.

Я добра памятаю, як тыя курапацкія крыжы ўсталёўваліся ў 2000 годзе. Як іх трушчылі бульдозеры дарожнікаў, як неабыякавыя людзі літаральна клаліся пад тыя бульдозеры, не пускаючы аўтастраду ў курапацкі лес. Як абаронцаў уначы падпальвалі ў палатках, як іх цэлымі аўтазакамі адвозілі на Акрэсціна… Прайшоў час. Імклівіць побач чатырохпалосная аўтастрада. Стаяць нерухомыя крыжы. Ніхто нікому не перашкаджае.

Каму ўвогуле можа перашкаджаць крыж на месцы пахаванняў у нібыта хрысціянскай краіне? Існуе ж шматвяковая традыцыя. Аднак жа – перашкаджае. І не толькі ў Курапатах. Помніцца, як некалькі разоў знішчаліся крыжы (праваслаўны і каталіцкі) каля вёскі Малое Ольжава на Лідчыне – на месцы гібелі паўстанцаў 1863 года. Нясцерпна муляў камусьці вока паклонны крыж у вёсцы Дражна Старадарожскага раёна, якую ў 1943 годзе спалілі партызаны. А вось і самы свежы прыклад – сёлета ў Трасцянцы перад адкрыццём мемарыяла знік памятны крыж з месца, дзе быў расстраляны гітлераўцамі Вінцэнт Гадлеўскі.

2018 год ад нараджэння Хрыста на двары, а такое адчуванне, быццам жывём мы ў часы язычніцтва ці ў эпоху рымскага імператара Дыяклетыяна, які праславіўся ганеннямі на хрысціян. Ён, праўда, не толькі крыжы паліў, але і ненавісных яму іншаверцаў аддаваў на абед галодным ільвам.

Самае дзіўнае, што ў вайне з крыжамі ўдзельнічаюць не толькі ўлады розных узроўняў, але і… святары. Прычым абедзвюх асноўных у Беларусі канфесій. Дражненскі крыж неўзабаве пасля знікнення быў неспадзявана выяўлены ў прыбудоўцы дражненскай жа царквы, настаяцель якой нервова прызнаўся аўтару гэтых радкоў, што не ведае, дзе той крыж падзець. А трасцянецкі крыж апынуўся чамусьці ў адным са сталічных касцёлаў. Навошта ён там? Як на добры лад, касцельныя ўлады мусілі б заапекавацца магілай Гадлеўскага (ён жа быў ксяндзом), а не хаваць знесены па распараджэнні ўлад свецкіх крыж.

Удзел (хай сабе і пасіўны) сучасных святароў у ганебнай вайне з крыжамі прымушае ўспомніць даўні і ледзь не анекдатычны выпадак, які адбыўся на Полаччыне пасля забароны царскім урадам уніяцкай царквы. Тады па загадзе праваслаўнага епіскапа Савы Ціхамірава сабраныя па ўніяцкіх храмах укрыжаванні перараблялісяна праваслаўныя (адрозніваліся яны тым, што ногі Хрыста на адных былі прыбіты адным цвіком, а на другіх – двума). Дык вось часопіс "Церковно-общественный вестник" за 1879 год іранічна паведамляў, як на нейкім адказным мерапрыемстве "одно высокопоставленное лицо выразило сожаление, что не прибыл владыка N. – Недосуг ему, – отвечало другое высокопоставленное лицо, – занят весьма важным делом. – Каким таким важным делом? – Спасителю ноги распиливает".

Вернемся, аднак, у Курапаты, дзе ўжо некалькі месяцаў трывае нешматлікая вахта каля пабудаванага там рэстарана. Зноў ва ўрочышчы ўсталёўваюцца, выкопваюцца і нішчацца крыжы. Зноў запатрабаваны спецпрыёмнік на Акрэсціна і пастарунак у Бараўлянах.

Адзін з арганізатараў той вахты Зміцер Дашкевіч нядаўна абурыўся: чаму партыйныя лідары ніяк не дачакаюцца ў Курапатах народных мас? Выйшлі б, маўляў, шчыльнымі радамі, і прыкрыўся б той рэстаран імгненна. Не выходзяць. Бо нашы "не замкнёныя на масу" апазіцыйныя партыі нагадваюць адлучаныя ад электралініі тралейбусы. І з выгляду яны прэзентабельныя, і за стырном сядзець ёсць каму, а рухаючай сілы – няма.

Лье пену на агмень пратэсту і дзяржаўная прэса. Паводле яе, у Курапатах працягваецца "постыдный фарс", адбываюцца "показушный перфоманс", "политическая возня" і "комедийное кривлянье" (усе цытаты – са старонак найбольш тыражнай "Советской Белоруссии"). Даводзілася мне і ад дэмакратычна настроеных знаёмцаў чуць, што ўсё ж не варта шумець на могілках.

Але Курапаты – не могілкі. Курапаты – месца злачынства, дарэшты не даследаванае, з няпэўнымі межамі. Злачынства тое не мае тэрміну даўнасці і калі-небудзь атрымае юрыдычную ацэнку. Таму проста неабходна захаваць сляды і доказы таго злачынства, якія могуць знаходзіцца і пад "лаўкай Клінтана", і пад дзіцячай пляцоўкай рэстарана "Поедем поедим".

З гэтага гледзішча старыя і новыя крыжы ў Курапатах – не чыйсьці "показушный перфоманс", а вартавыя недатыкальнага месца, знакі бяды, якія маўкліва крычаць: схамяніцеся, людзі, пачуйце голас крыві бязвінна забітых суайчыннікаў вашых!

На крык гэты дырэктар Бараўлянскага лясгаса Аляксандр Мірановіч адказвае пагрозай засудзіць тых, хто ўсталёўвае крыжы, па артыкуле "засмечванне лесу". Але якую шкоду могуць нанесці драўляныя крыжы драўлянаму (прабачце) лесу? Хай бы леснікі пазбіралі ў тым і суседнім лесе пластык ды шкло, якое сонечным днём можа нарабіць пажару.

Міністэрства культуры нядаўна нібыта вызначылася з праектам помніка ў Курапатах. На вялікі жаль, яго ўсталяванне можа падняць новую хвалю грамадскага абурэння, бо дагэтуль незразумела, які надпіс будзе на тым помніку. І зноў, не выключана, распачнецца супрацьстаянне, зноў будуць з'яўляцца "несанкцыянаваныя" крыжы, і зноў актывізуецца ваяўнічае і цемрашальскае змаганне з імі. І працягнецца трыццацігадовая вайна, ад якой у Беларусі стаміліся ўсе.

ДАСЛОЎНА

## «Мы гатовы пастаўляць у Беларусь нафту…»

Пра гэта днямі сказаў пасол Казахстана ў Беларусі Ермухамет Ертысбаеў. Але ёсць праблема: краіны не маюць агульнай мяжы. А каб казахская нафта трапіла ў расійскую трубу, а праз яе – у Беларусь, трэба мець згоду крамлёўскіх улад. Пакуль такой згоды няма. І гэта тэма шматлікіх спрэчак.

